

# НАВІНЫ

**БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ ЗА ПЕРАБУДОВУ «АДРАДЖЭНЬНЕ»**

1' 1990 — 20 студзеня

## Год Пагоні

Ізноў «Навіны», нібыта ў насьмешку над сваёй назвай, выходзяць са спазненьнем. Прычыны — у аб'ектыўных цяжкасьцях: друкарня Марціна Кухты — сьпецыфічная друкарня. Няпросты шлях да свабоды друку. Краты на турэмных вокнах пілуюцца марудна, а напільнікі канфіскоўваюцца, падкопы выяўляюцца і заліваюцца бетонам. Але настрой усё ж сьвяточны — і не ў чаканьні амністыі, а ў прадчуваньні вялікага народнага штурму нашай тутэйшай Бастыліі.

І няхай Год Каня — бязадмоўнай, цяглавай істоты — стане для нас Годам Імклівай, Няскоранай, Вольнай Беларускай Пагоні!

З Новым Годам!

З Калядамі!

З Хрыстовым Нараджэньнем!

Жыве Беларусь!



Гравюра Уладзімера Вішнеўскага

## Кроніка

**1—2 сьнежня, Наваполацак.** 3,5 тыс. гараджанаў паставілі подпісы пад патрабаваньнем удзельнікаў двухдзённай галадоўкі, якая адбывалася каля будынка гаркаму КПБ. Дэпутат гарсавета, старшыня Полацкай Рады БНФ А. Кулік (цяпер вылучаны кандыдатам у нар. дэпутаты БССР), паэт і бард С. Сокалаў-Воюш, рабочыя наваполацкіх прадпрыемстваў М. Аксёнава, А. Туркоў, Д. Лапкоўскі і В. Храмцоў пратэставалі супраць рашэньня сесіі гарсавета павялічыць у 1990-м г. на 10 тыс. тон выпуск бялкова-вітаміннага канцэнтрату (БВК), вытворчасьць якога выклікае ў навапалачанаў масавыя алергічныя захворваньні. Вядома таксама, што спажываньне мяса выгадаванай на БВК жывёлы спрыяе ўзьнікненьню ракавых пухлінаў.

**11 сьнежня, Менск.** Работнікі эксьперыментальнага цэху шарыка-падшыпнікавага заводу правялі дзьвюхгадзінную папераджальную забастоўку ў падтрымку патрабаваньняў групы нар. дэпутатаў аб уключэньні ў парадак дня II Зьезду нар. дэпутатаў СССР пытаньняў аб зямлі, уласнасьці, суверэнітэце рэспублік і пераглядзе 6-га арт. Канстытуцыі СССР.

(Паводле М. Шыманскага)

**11—15 сьнежня, Гомель.** Як паказала атэстацыя, радыялагічная лабараторыя Гомельскай абласной базы «Бакалея» не прыстасаваная да аналізу пробаў прадуктаў, якія паступаюць у продаж. Адзіны бэта-радыёметр КРВП-ЗАБ не гатовы да эксплуатацыі, апошняя праверка прадуктаў праводзілася тры тыдні назад, неўкамплектаваныя штаты.

(Паводле М. Бычкова)

**17 сьнежня. Гародня.** Адбылася 1-я гарадзкая канферэнцыя БНФ «Адраджэньне». У ёй удзельнічалі дэлегаты ад 31 групы падтрымкі і Рабочага Саюзу Беларусі. Прынятыя Зварот да выбаршчыкаў, рэзалюцыі аб палітычным становішчы, аб стаўленьні да РСБ і аб узаемадачыненьнях з грамадзкімі арганізацыямі і згуртаваньнямі нацыянальных меншасьцяў. Абраная Рада ў складзе 15 чал., яе старшынёй стаў Ю. Бацылеў.

**18 сьнежня, Менск.** Па ініцыятыве БНФ «Адраджэньне» адбыўся шматтысячны мітынг памяці А. Сахарава. Гарадзкія ўлады санкцыянавалі яго правядзеньне, хаця фармальна маглі спаслацца на літару закона (заяўку неабходна падаваць за 10 дзён). Ініцыятыву БНФ падтрымаў незалежны прафсаюз работнікаў грамадзкага транспарту: менчукі даведаліся пра мітынг з паведамленьняў у аўтобусах і тралейбусах. Аддаючы належнае праваабарончай дзейнасьці акадэміка Сахарава, якая ў вялізнай ступені паўплывала на цяперашні палітычны клімат ў «сацыялістычным лагеры», прамоўцы непазьбежна вярталіся да хады II зьезду нар. дэпутатаў СССР. Была прынятая рэзалюцыя-зварот да Зьезду, у якой, у прыватнасьці, гаворыцца, што памяць А. Сахарава павінна быць увекавечана неадкладным скасаваньнем 6-га арт. Канстытуцыі СССР.

**19 сьнежня. Гародня.** Прайшлі кансультацыі прадстаўнікоў БНФ «Адраджэньне», клуба «Паходня» і Польскага Таварыства імя А. Міцкевіча па пытаньнях разьвіцьця беларускай і польскай моваў на Гарадзеншчыне. Дасягнутая дамоўленасьць аб саюзе пад час выбарчай кампаніі.

**7 студзеня, Мазыр.** Адбыўся мітынг «За дэмакратычныя выбары», наладжаны мясцовай групай падтрымкі БНФ. Зьмяніўшы ў апошні момант загадзя прызначанае месца правядзеньня, улады аўтаматычна перавялі мітынг з санкцыянаванага ў шэраг «незаконных». У выніку за мерапрыемства, асноўная думка якога адлюстроўвалася плакатам «Як прагаласуем, так і будзем жыць», актывісты БНФ Н. Аксёнчык

**(Працяг на стар. 7)**

# АСАДЗІ НАЗАД!

Даклад М. Гарбачова на апошнім пленуме ЦК, як заўсёды, дваісты: 1. Гарбачоў ня даў літоўскай кампартыі стаць незалежным партнёрам КПСС; 2. Гарбачоў ня даў сваёй вернападданай наменклатуры зараз жа раздушыць і зьнішчыць гэтую наравістую Літву. Знаёмы гарбачоўскі цэнтрызм. Стрымаць поступ і стрымаць рэакцыю, пакуль у сярэдзіне аморфнага грамадзтва ня высьпеюць рэальныя палітычныя сілы, здольныя ўтварыць дэмакратычную грамадзкую структуру. Не дапусьціць да крыві!

Гэта быццам станоўчая пазіцыя, але яна не спрацоўвае. Гэта была б станоўчая пазіцыя, калі б гутарка ішла пра адну нейкую рэспубліку (напрыклад — БССР). Але тут — дзесяткі рэспублік, сотня народаў, шостая частка Зямлі! Тут настолькі розныя традыцыі, узроўні і характар палітычных сітуацый, што поступ у адных — рэакцыя для другіх. І наадварот. Здаровы сэнс падказвае: няхай лебедзь, рак і шчупак цягнуць кожны — свой воз прабпем. Абсурдны сэнс гэтаму пярэчыць: «СССР — наш агульны воз!».

Вось галоўная і падставовая загана гарбачоўскага цэнтрызму. Гэта — масквацэнтрызм. Цяжкая спадчына расейскага імперыялізму. Ва ўсім сьвеце народам «дазволена» (і мы ўхваляем) змагацца за незалежнасьць і дзяржаўнасьць. Толькі для былых расейскіх калоній такое змаганьне — загана (і мы асуджаем). Чаму? Ці не таму, што яны па сутнасьці сваёй застаюцца калоніямі — рэгіёнамі, як любяць кіраўнікі БССР называць сваю рэспубліку, дзяржаву, краіну? Адказ на гэтае пытаньне — у балансе інтарэсаў. Інтарэсы Савецкай дзяржавы ці федэрацыі, КПСС, марксізму-ленінізму і сацыялістычнага інтэрнацыяналізму (словы, словы) вышэй за інтарэсы літоўскага ці якога іншага народа (людзі, людзі). Чыстая ідэалогія важней за быццё чалавека.

Колькі зараз чаўпецца з трыбун: вярнуць пачуцьцё гаспадара! Г. зн.— пачуцьцё свабоды і адказнасьці. Селяніну, работніку, кіраўніку. Вось жа паспрабавалі літоўцы з падначаленых стаць гаспадарамі сваёй Літвы. А ім — асадзі назад! А паспрабуй рабочы стаць гаспадаром свайго станка, селянін — гаспадаром свае зямлі? Асадзі назад!

Асадзі назад!

**Сяргей Паўлоўскі**

P. S. Скончыўся беспрэцэдэнтны візіт М. Гарбачова ў Літву. Менавіта візіт, а не «паездка па краіне». Падрабязныя тэлевізійныя рэпартажы, бадай, не праясьнілі сітуацыю. «Няўжо?» — думаюць адны. «Няўжо магчыма?» — думаюць другія. Але трэба быць сьляпым, каб не заўважыць, што пасьля этапу дэмакратычных рэвалюцый ва Усходняй Еўропе распачаўся новы этап — нацыянальна-дэмакратычных рэвалюцый у СССР. І Маскве давядзецца прызнаць гэта дэ факта. Мера адпушчанай свабоды ператварылася ў свабоду. Здатны палітык Гарбачоў ня мог не адчуць, што сёньня Літва і КПЛ пакінулі «цэнтр» і КПСС далёка ззаду. Літву ўжо не спыніць. «Асадзі назад!» — гэта хутчэй для нас.

# ВІЦЕБСКАЯ ТЫСЯЧА




23 сьнежня а 10.00 некалькі хлопцаў спрабавалі распачаць каля будынку Віцебскага абкаму КПБ двухдзённую галадоўку пратэсту. Неўзабаве да іх падыйшлі міліцыянты і людзі ў цывільным, вырвалі плакаты і выкруцілі рукі, аднаго нават зьбілі на асфальт і цягнулі за ногі... А некалькімі днямі раней судзьдзі А. Сазон, З. Гелімбатоўская і Л. Дзяшкевіч прысудзілі ім (М. Паўлаву, М. Шпакоўскаму, П. Сырапеню, А. Мудрычэнку, Ул. Праніку, М. Намесьнікаву, І. Цішкіну і А. Салтанаву) штрафы агульнай сумаю ў 1000 рублёў. Юрыдычная падстава — артыкул 167 п.1 Кодэксу БССР аб адміністрацыйных парушэньнях — «несанкцыянаваны мітынг» (на самой справе — сход выбаршчыкаў).

Але віна гэтых людзей перад адміністрацыйнай сістэмаю куды большая, чым інкрымінаваная «народнымі» судзьдзямі. Яны паспрыялі віцяблянам выказаць тое, што накіпела.

А накіпела ў людзей шмат. Вось толькі дзьве вытрымкі з выступаў, якія прагучалі на сходзе. Вольга Палуляхава: «Дзе абяцаная Ул. Грыгор'евым каўбаса? Чаму Я. Лігачова вазілі па «пацёмкінскіх» калгасах? Мо' дзеля таго, каб Грыгор'еў пайшоў у ЦК? І як магло здарыцца, што наш таленавіты народ пераўтварыўся ў нявольніка?». Уладзімер Дубавец: «У Канстытуцыі БССР трэба зацьвердзіць палітычны плюралізм, шматпартыйнасьць. Я член КПСС, але лічу, што аўтарытэт партыі ня можа быць пустой дэкларацыяй, ён павінен сьцьвярджацца справамі. Пакуль жа мы бачым бездапаможных шараговых камуністаў і адарваны ад іх партапарат, які змагаецца за ўласныя прывілеі і гамуе ажыцьцяўленьне прагрэсіўных законаў». У рэзалюцыі сходу — зварот да II зьезду Саветаў аб скасаваньні 6-га арт. Канстытуцыі, патрабаваньне да Вярхоўнага Савету БССР аб рэгістрацыі БНФ «Адраджэньне». Быў выказаны палітычны недавер 1-му сакратару абкаму КПБ Уладзімеру Грыгор'еву.

Некаторыя цяпер пытаюцца: ну, і чаго вы дамагліся? «Агрэсіўна-паслухмяная большасьць» не дазволіла нават унесьці 6-ы арт. у парадк дня, БНФ і сёньня на паўлегальным становішчы, а Грыгор'еў па-ранейшаму займае сваю пасаду. Каб адказаць на гэтае пытаньне, трэба паставіць другое: а чаму ўлады ўпарта не жадалі гэтага сходу выбаршчыкаў? Здавалася б — ну, рвіце сабе глотку, галадуйце, аж пакуль косткі праз скуру не засьвецяць. Ды вось не дазволілі сход, галадоўшчыкаў міліцыяй расьцягвалі. Ісьціна простая: людзі хоць на гадзіну-другую адчулі яднаньне. Ня тую «селядцовую» еднасьць-даўку ў чарзе па дэфіцыт ці ў перапоўненым тралейбусе, а яднаньне сьвядомае, духоўнае. У такія моманты чалавек з пасіўнага сузіральніка ператвараецца ў сьвядомага змагара. Такі чалавек ня толькі разумее простую сувязь паміж радыянуклідным мясам і антыгуманнай сістэмаю. Ён авалодвае прыёмамі палітычнай барацьбы і будзе галасаваць за сумленных дэпутатаў, якія ў сваю чаргу прызначаць кампетэнтны ўрад.

Палітызацыі грамадзтва — вось чаго больш за ўсё баіцца адміністрацыйная сістэма, і яна будзе жорстка караць кожнага, хто гэтай палітызацыі спрыяе. Ілюзіяў тут быць не павінна. Але і надзеі ня трэба губляць: сабралі ж віцябляне грошы ў дапамогу хлопцам. Па рублю скідваліся... Тысяча сумленных людзей — ня так ужо і мала.

Цяпер апарат выкручвае рукі кандыдатам у дэпутаты, бо ад выбараў залежыць ягонае права судзіць і літаваць. Калі мы не пазбавім яго гэтага права, калі не дапаможам сваім абраньнікам — можа здарыцца, што за слова праўды тысячны штраф будзе здавацца яшчэ вельмі мяккім пакараньнем...

**Сяргей Навумчык**

## Byelorussian-American Association, Inc.

**БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ ЗАДЗІНОЧАНЬНЕ**

**(ЗША. Нью-Ёрк)**

Сойму Беларускага Народнага Фронту
за перабудову «АДРАДЖЭНЬНЕ»

8 лістапада 1989 г.

Паважаныя Спадары!

Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне падтрымлівае зварот устаноўчага зьезду БНФ да ўсіх народаў свету і да беларускай эміграцыі з просьбай аб дапамозе мэдыцынскай тэхнікай і мэдыкамэнтамі, а таксама грашыма, для лячэньня хворых ад чарнобыльскае радыяцыі. Беларусы Амэрыкі гатовыя даць такую дапамогу, але заяўляюць, што будуць перасылаць яе толькі на рукі Беларускага Народнага Фронту і толькі пры ўмове, што далейшае разьмеркаваньне дапамогі будзе праводзіцца з удзелам прадстаўнікоў БНФ.

Камітэт дапамогі ахвярам Чарнобыля ў Беларусі, які фармуецца цяпер зь ініцыятывы Архіепіскапа Мікалая, Першагіерарха Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, і ў які ўвайшлі прадстаўнікі беларускіх арганізацыяў ЗША і Канады, просіць дзеля гэтага падаць адпаведны адрас БНФ і банкавае конта, куды перасылаліся-б апараты, мэдыкамэнты й грошы. Адрас Камітэту тымчасам той самы, што й галоўнае ўправы БАЗА.

Паведамляем таксама, што ў Вашынгтоне нашаму прадстаўніку было сказана, што калі-б была фармальная просьба ад ураду БССР да ўраду ЗША аб дапамозе ахвярам Чарнобыля, дык справа дапамогі магла-б быць куды больш эфэктыўнай. Падобнае сказалі ў Атаве і прадстаўніку Згуртаваньня Беларусаў Канады. Беларусы Амэрыкі й Канады спадзяюцца дзеля гэтага, што ўрад БССР зьвернецца з адпаведнай просьбай да амэрыканскіх і канадзкіх уладаў — у імя ратаваньня здароўя ахвяраў радыяцыйнае катастрофы.

Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне запэўняе таксама, што яно зробіць усе магчымыя захады, каб прыцягнуць да гэтае міласэрнае акцыі дапамогі ахвярам Чарнобыля амэрыканскія дабрадзейныя арганізацыі ды шырэйшыя колы амэрыканскага грамадзтва.

Ад імя галоўнае ўправы БАЗА з найлепшымі пажаданьнямі —

**Антон Шукелайць,**
**Старшыня**

# ПРА ВЫНІКІ АДНАГО ДАСЬЛЕДВАНЬНЯ

У рэдакцыю «Навін» трапіла «Аналітычная запіска» па выніках сацыялагічнага дасьледваньня, якое праводзілася па загадзе ЦК КПБ. Тэма — грамадзка-палітычная сітуацыя ў Рэспубліцы перад выбарчай кампаніяй. Тое, што партыйнае кіраўніцтва Беларусі пачало цікавіцца грамадзкай думкай — факт красамоўны. Занепакоенасьць апарату мае падставы: маруднасьць рэформаў не спрыяе росту папулярнасьці КПСС, і на веснавых выбарах, трэба думаць, партыі будзе нялёгка.

Што высьветліла менавіта гэтае дасьледваньне? Толькі 19 % апытаных вырашылі для сябе, за каго яны будуць галасаваць на выбарах у Вярхоўны і мясцовыя саветы Рэспублікі. Такім чынам, больш 80 % патэнцыяльных выбаршчыкаў яшчэ ня вызначылі сваёй пазіцыі, а гэта значыць, «что они сегодня готовы проголосовать за любого кандидата, кого бы он не представлял: трудовой коллектив, партийный комитет, профсоюзную организацию или БНФ «Адраджэньне». Менавіта такая галоўная выснова дадзенага сацыялагічнага дасьледваньня. І далей: «На прошедших выборах в народные депутаты СССР значительное число избирателей, отдавших голоса представителям БНФ, голосовали не столько за их программу, которая была острокритичной, но несла мало элементов конструктивности, сколько против множества недостатков и обостренности социально-экономических проблем... Поэтому в процессе подготовки и проведения нынешней избирательной кампании партийные комитеты могут перебороть негативные тенденции в умонастроениях и позициях избирателей только разработкой конструктивных, реально выполнимых предвыборных программ».

Перш за ўсё адзначым некарэктную пастаноўку пытаньня ў сацыялагічным дасьледваньні. Відавочна, што для выбаршчыка, які не трымаў у руках перадвыбарчых платформаў «Адраджэньня», кампартыі і інш., лягчэй за ўсё было адказаць: «ня ведаю». Таму зробленая па выніках дасьледваньня выснова, мякка кажучы, нелагічная. Наўрад ці сёньня выбаршчык стане галасаваць за любога кандыдата, няхай нават і з самай канструктыўнай праграмай. Зьезды, законы, законапраекты, распрацаваныя альбо прынятыя дзяржаўнымі, партыйнымі і савецкімі органамі не прынесьлі адчувальных зьменаў у жыцьці народа. Пэўна можна сьцьвярджаць толькі тое, што прадстаўнікам партыі, асабліва апарату, будзе на гэтых выбарах яшчэ цяжэй, чым на мінулых. Каб вызначыць больш дакладна расстаноўку сілаў у грамадзтве, дастаткова было ў анкеце канкрэтызаваць пытаньне: за каго будзе галасаваць — КПБ, БНФ ці «ня ведаю»? Тады працэнт цьвёрдых адказаў быў бы вышэйшы.

І ўсё ж, нягледзячы на вартыя іранічнай усьмешкі ідэалагічныя пасажы накшталт: «противостояние с неформалами в борьбе за голоса избирателей должно вестись на демократической основе при обязательном сохранении конструктивности и доброжелательности диалога, в котором бы наряду с поддержкой их справедливых и обоснованных претензий — экологическая ситуация, стремление к возрождению белорусского языка и национальной культуры, /.../ увековечивание памяти жертв массовых репрессий (пытаньні выжываньня нацыі — элегантным словам «претензии»! — П. Х.) — подвергались критическому разбору негативные стороны самодеятельных общественных движений...», у дасьледваньні ёсьць цікавыя дадзеныя пра спрыяльныя і неспрыяльныя для прадстаўнікоў партыйных камітэтаў рэгіёны Рэспублікі.

Да **спрыяльных** аднесеныя наступныя раёны: у Берасьцейскай вобласьці — Ганцавіцкі, Пінскі, Драгічынскі, Камянецкі, Лунінецкі; у Віцебскай вобл.— Талачынскі, Шаркаўшчынскі, Дубровенскі; у Гомельскай вобл.— Петрыкаўскі, Буда-Кашалёўскі, Брагінскі, Лоеўскі, Кармянскі, Кастрычніцкі; у Гарадзенскай вобл.— Воранаўскі, Карэліцкі, Навагрудзкі, Сьвіслацкі; у Менскай вобл.— Валожынскі, Бярэзінскі, Стаўбцоўскі, Клецкі; у Магілёўскай вобл.— Глускі, Кіраўскі, Касьцюковіцкі, Магілёўскі.

Да **неспрыяльных** для камуністаў аднесеныя: у Берасьцейскай вобласьці — гарады Баранавічы і Кобрын, раёны Іванаўскі і Маларыцкі, а таксама Ленінскі і Маскоўскі р-ны Бярэсьця; у Віцебскай вобл.— гарады Полацак і Наваполацак, Верхнядзьвінскі раён, Кастрычніцкі і Першамайскі р-ны Віцебска; у Гомельскай вобл.— гарады Мазыр і Рэчыца, раёны Нараўлянскі, Хойніцкі, Добрушскі, Чачэрскі, Сьветлагорскі, Веткаўскі і Калінкавіцкі, Савецкі і Навабеліцкі р-ны Гомеля; у Гарадзенскай вобл.— раёны Дзятлаўскі і Ашмянскі, Ленінскі і Кастрычніцкі р-ны Гародні; у Магілёўскай — раёны Краснапольскі, Слаўгарадзкі, Чэрыкаўскі, Крычаўскі, Шклоўскі і Хоцімскі; у Менскай вобл.— горад Стоўбцы, раёны Нясьвіжскі і Салігорскі.

Паводле «Запіскі», наогул па Рэспубліцы толькі малая частка насельніцтва гатовая падтрымаць прадстаўнікоў партыйных арганізацыяў як магчымых кандыдатаў у дэпутаты. Сярэдняя ўдзельная вага такіх выбаршчыкаў складае 7,8 % (ад 3,9 у Менску да 12,8 % у Гомельскай вобл.). Аўтараў дасьледваньня непакоіць, «что в ряде регионов значительная часть людей отдает предпочтение возможным кандидатам от БНФ». У прыватнасьці, у Менску ў падтрымку прадстаўнікоў БНФ выказаліся 22,9 % апытаных.

Зноў хочацца сказаць, што нягледзячы на недакладнасьць, некарэктнасьць у правядзеньні апытаньня, у пэўным сэнсе яно ўсё ж дае прыблізную карту расстаноўкі грамадзкіх сілаў на Беларусі.

Каб аблегчыць камуністам задачу, удакладніць іх перадвыбарчыя веды, лічым магчымым паведаміць наступную інфармацыю. Франтаўскія групы існуюць па 170 выбарчых акругах (дадзеныя на канец сьнежня 1989 года). На гэты ж час адбыліся перамовы са 110 працоўнымі калектывамі, якія зьбіраюцца вылучаць кандыдатаў БНФ. Але справа ў тым, што пакуль ня ўлічанымі застаюцца кандыдаты ад ТБМ, Беларускага Сялянскага Саюза, творчых саюзаў, кааператываў, Чарнобыльскіх камітэтаў у раёнах (хутчэй за ўсё будуць вылучацца ўдзельнікі Чарнобыльскай Асамблеі). З гэтымі арганізацыямі БНФ выступае на выбарах адзіным блокам. І, нарэшце, вялізную ролю можа выканаць уласная ініцыятыва людзей.

Тое, што зараз у Рэспубліцы зьменьшылася папулярнасьць усіх палітычных сілаў, факт бясспрэчны. Людзі стаміліся ад балбатні, ад бясконцых абяцаньняў «райских кущ». Але ўсё ж выбары адбудуцца, і тут БНФ мае значна больш шанцаў на парламенцкія мандаты. Пасьля публікацыі выбарчай «Платформы Камуністычнай партыі Беларусі...» можна ўпэўнена сьцьвярджаць, што франтаўская платформа «Галасую за Беларусь!» — больш пасьлядоўная і радыкальная. Важна толькі, каб насельніцтва Рэспублікі пазнаёмілася зь ёю. А з аўтарамі «Запіскі» трэба пагадзіцца ў тым, што сапраўды канкрэтная рэалістычная праграма кандыдата можа вырашыць ягоны палітычны лёс.

**Каментар зрабіў Пётр Хмара**

### ЗАЯВА УПРАВЫ СОЙМУ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ

Сьвет абляцела чорная вестка пра крывавыя злачынствы антынароднага рэжыму Чаушэску ў Румыніі. Пралілася кроў нявінных людзей, якія выйшлі на мірную дэманстрацыю ў Цімішаары і Бухарэшце. Улада страляла ў народ.

Маркотна схіляем галаву ў жалобе над адабранымі жыцьцямі румынскіх і венгерскіх змагароў за людзкасьць і справядлівасьць.

XX-е стагодзьдзе захлынаецца крывёю ад злачынстваў камуністычных дыктатур. Толькі гадзіньнік ужо прабіў свой гістарычны час і ніякія забойствы не ўратуюць больш панаваньня таталітарных марксісцкіх рэжымаў. Пройдзе зусім няшмат часу, і разбурацца апошнія бастыёны прыгнёту ў Еўропе, і сонца свабоды засьвеціць над вольнымі народамі.

Вечная памяць ахвярам, замучаным і забітым.

**Управа Сойму БНФ «Адраджэньне»**

Менск, 23 сьнежня 1989 г.

## СКРЫНКА 327

### ХТО «УСЕ» і «КУДЫ ІСЬЦІ»?

Напярэдадні «Дзядоў» сябры Навагрудзкай групы падтрымкі БНФ разам з групай палякаў зь фірмы «Будымэкс», што працуюць на рэстаўрацыі сядзібы-музея А. Міцкевіча, наладзілі талаку на занядбаных каталіцкіх могілках па вул. Савецкай. Згрэблі сьмецьце, узьнялі некалькі помнікаў, паставілі сьвечкі ды пайшлі. На наступны дзень кіраўніка польскай групы выклікалі ў раённы аддзел КДБ, каб ён растлумачыў, чаму яны ўчынілі гэтую несанкцыянаваную акцыю. Той зьдзівіўся пытаньню, але адказаў, што ў Польшчы так прынята — прыбіраць магілкі і памінаць памерлых у пэўны дзень, і ніякага дазволу ўладаў на гэта не патрэбна. Супрацоўнік КДБ намагаўся растлумачыць наіўнаму чалавеку што да чаго, але паляк не разумеў яго ўсё болей. І ўрэшце

**(Працяг на стар. 8)**

# Мікалай ІГНАТОВІЧ: Мой прагноз не суцяшальны

**«Навіны»: Шмат хто лічыць, што беларуская дэлегацыя дзейнічала на II зьезьдзе народных дэпутатаў СССР нездавальняюча.**

**М. Ігнатовіч:** Гэта абывательскае меркаваньне пра дзейнасьць дэпутатаў.

**«Навіны»: Тады канкрэтызуем пытаньне. На нашу думку, перад беларускай дэлегацыяй стаяла звышзадача ўнесьці ў парадак дня праблему Чарнобыльскай катастрофы. Дарэчы, на Чарнобыльскай Асамблеі, дзе прысутнічалі многія дэпутаты, ішла гаворка нават пра магчымы дэмарш на той выпадак, калі Зьезд праігнаруе Чарнобыль.**

**М. І.:** Па-першае, я не прыхільнік такога выразу — «беларуская дэлегацыя». Будзем называць гэта «беларуская дэпутацыя». Па-другое, у нас быў прысьвечаны Чарнобылю зварот да Зьезда, які падпісала большасьць дэпутатаў ад Беларусі. Мы прасілі распаўсюдзіць яго як дакумент Зьезда, але па нейкіх цьмяных прычынах нашае хадайніцтва не было задаволенае. Наогул, многія нашыя прапановы і патрабаваньні патанулі, як у балоце.

**«Навіны»: Ці трэба гэта разумець так, што ўсё вырашае прэзідыюм, сакратарыят, партыйная верхавіна «дэпутацыі», а голас аднаго чалавека або групы заведама ня будзе пачуты?**

**М. І.:** Ен можа прагучаць. Але наўрад ці будзе мець пазітыўныя вынікі. Што ж датычыцца Чарнобыля, дык вядома, што Беларусь мае канкрэтную праграму ліквідацыі наступстваў і што прадстаўнікі ўраду і дэпутаты зараз настойліва дамагаюцца яе абмеркаваньня ў «цэнтры». Але нам было заяўлена, што наступствы катастрофы датычацца таксама Украіны і Расіі. Вы, маўляў, ужо вельмі адасабляецеся, выдзяляецеся, давайце, маўляў, лепш думаць пра агульнасаюзную праграму.

**«Навіны»: І тут угледжаны сепаратызм? Наколькі, на Вашу думку, гэта справядліва?**

**М. І.:** Я сыходжу зь дзьвюх пазіцый. Па-першае, Беларусь пацярпела больш за ўсіх. Па-другое, адказнасьць за катастрофу нельга ўскласьці на ніводнага грамадзяніна Беларусі і на ніводзін беларускі дзяржаўны або грамадзкі орган. З пункту погляду юрыдычнага, вінаваты бок павінен кампенсаваць усе страты. І Беларусь мае ўсе падставы дамагацца законнай кампенсацыі.

**«Навіны»: Балтыйскай групе ўдаецца схіліць «цэнтр» да канкрэтных рашэньняў і дзеяньняў.**

**М. І.:** Нашую дэпутацыю нельга нават параўноўваць з балтыйскімі. Там — еднасьць і аднадушнасьць, у нас — разрозьненасьць.

**«Навіны»: Як Вы ў цэлым ставіцеся да Балтыйскай групы?**

**М. І.:** Зь вялікай павагай. Зь некаторымі прадстаўнікамі Балтыйскай групы ў мяне добрыя таварыскія кантакты, па шэрагу прынцыповых палажэньняў у мяне аднолькавы зь імі пункт погляду. Але я ў большай ступені падтрымліваю тых, чыя пазіцыя вызначаецца памяркоўным пасьлядоўным радыкалізмам. Рэзкія зрухі ўлева могуць выклікаць адпаведную рэакцыю правых. А гэта ў першую чаргу адаб'ецца на іншых рэспубліках.

**«Навіны»: Дэмакратычная фракцыя ў беларускай «дэпутацыі» — гэта рэальнасьць або таксама абывательскае меркаваньне?**

**М. І.:** Напэўна, рэальнасьць. Да часу II зьезду адбыўся дэмакратычны зрух сярод шэрагу нашых дэпутатаў. Пра гэта сьведчаць вынікі пайменнага галасаваньня ў сувязі з прапановай абмеркаваць 6-ы арт. Канстытуцыі СССР. З 94 дэпутатаў 40 прагаласавала за ўключэньне гэтага пытаньня ў парадак дня, 42 — супраць, астатнія або адсутнічалі, або ўстрымаліся.

**«Навіны»: Ці будуць зробленыя якія-небудзь захады дзеля арганізацыйнага афармленьня гэтай дэмакратычнай фракцыі?**

**М. І.:** Я прыхільнік такога афармленьня. Але, працуючы пераважна ў Маскве, не магу рабіць канкрэтныя крокі. Гэта павінна рабіцца на месцы.

**«Навіны»: Якое агульнае ўражаньне ад Зьезда?**

**М. І.:** Я не задаволены. Зьезд не прыняў ніякіх кардынальных рашэньняў. Па такой праграме яго можна было і не праводзіць.

**«Навіны»: Не сакрэт, што сваім вылучэньнем Вы ў вялікай ступені абавязаны Беларускаму Народнаму Фронту. Як цяпер Вы будуеце свае адносіны з БНФ?**

**М. І.:** Пад час мінулых выбараў БНФ падтрымліваў і некаторых іншых кандыдатаў. Але гэта рабілася як бы трохі прыхавана. Што ж да маёй выбарчай кампаніі, дык тут ніякай ценявой тактыкі не было. Усё рабілася адкрыта. Па большасьці пунктаў я Праграму БНФ падтрымліваю, хаця ёсьць паасобныя спрэчныя палажэньні. Цяпер і надалей я буду прытрымлівацца пазіцыі незалежнага дэпутата. Незалежнага ад наменклатуры і апарату, незалежнага ад БНФ. Але я працягваю супрацоўнічаць з «Адраджэньнем», пачынаньні БНФ падзяляю і падтрымліваю.

**«Навіны»: Якія пункты ў Праграме «Адраджэньня», на Ваш погляд, зьяўляюцца спрэчнымі?**

**М. І.:** Напрыклад, стварэньне нацыянальных вайсковых фармаваньняў. Штосьці ёсьць там такое, здаецца? Пакуль што можна гаварыць толькі пра свае фармаваньні ўнутраных войскаў — нацыянальную гвардыю.

**«Навіны»: У Праграме БНФ ідзе гаворка пра права беларускіх юнакоў служыць на тэрыторыі Беларусі.**

**М. І.:** Я цалкам за. Але пакуль СССР зьяўляецца адзінай дзяржавай, гэта немагчыма. Камусьці давядзецца служыць на Чукотцы.

**«Навіны»: Прапановы сумесных дзеяньняў дэпутатаў і БНФ звычайна сыходзяць з боку «Адраджэньня». А якую ініцыятыву дэпутатаў мог бы ў сваю чаргу падтрымаць БНФ?**

**М. І.:** Трэба дзейнічаць заадно ў пытаньнях экалогіі. Шмат клопату маім выбаршчыкам прыносяць вайсковыя аб'екты — аэрадром Ліпкі, які ўжо прымкнуў да горада, і вучэбны цэнтр. Даўно займаюся гэтымі пытаньнямі, але зь Міністэрствам абароны ні пра што дамовіцца не магу. Неабходна параіцца з прадстаўнікамі БНФ, што рабіць далей, бо трываць такое становішча болей немагчыма.

**«Навіны»: Дзеяньні БНФ і дэпутатаў былі б нашмат больш эфектыўнымі, калі б існаваў нейкі агульны каардынацыйны цэнтр.**

**М. І.:** Так, я лічу, што дэпутаты, якія цалкам або часткова падзяляюць Праграму БНФ, маглі б яго арганізаваць.

**«Навіны»: Хто ж тады павінен праявіць ініцыятыву?**

**М. І.:** Ініцыятыва павінна ісьці ад абодвух бакоў. Але, мяркую, з гэтым ня трэба сьпяшацца. Лепш пачакаць вынікаў рэспубліканскіх выбараў. Тады можна будзе вызначыць, хто ёсьць хто, і распрацаваць сумесны план дзеяньняў.

**«Навіны»: Паводле сацыялагічнага апытаньня, праведзенага партапаратам, усе палітычныя сілы Рэспублікі страцілі ў папулярнасьці. У абсалютных лічбах найбольш страціў БНФ, хаця па-ранейшаму пераважае КПБ, прафсаюзы і камсамол разам узятых.**

**М. І.:** Гэта зьвязана з тым наступам, які вядзецца на БНФ, каб зьняславіць яго ў вачах людзей. Ды і сам рух недастаткова актыўны. Дзеля таго, каб мець вагу і значэньне, трэба пашыраць сацыяльную базу, шукаць аднадумцаў. Бяз гэтага істотных посьпехаў ня будзе.

**«Навіны»: Цяперашняя выбарчая кампанія характарызуецца пэўнай апатычнасьцю. Папярэднія выбары акрыляла надзея.**

**М. І.:** Эйфарыя, зьвязаная зь І зьездам заціхла, бо ўжо ён ня спраўдзіў надзеяў. Эканамічнае становішча застаецца цяжкім, у многіх выпадках пагаршаецца. Гэта спараджае апатыю і нават, я б сказаў, недавер.

**«Навіны»: Хіба апатыя распаўсюджваецца на ўсе рэспублікі?**

**М. І.:** Балтыю я б не назваў апатычнай. Людзі там бачаць перспектыву, там існуюць дакладна выпрацаваныя палітычныя і эканамічныя праграмы.

**«Навіны»: Ваш прагноз на вынікі выбараў у Рэспубліцы?**

**М. І.:** Мой прагноз ня будзе суцяшальны. Вярхоўны Савет, вядома, зьменіцца, але не нашмат. Будзе, напэўна, каля 20—30 % дэмакратаў. Але апарат зробіць усе магчымыя захады, каб спыніць непажаданых яму кандыдатаў. Толькі ў паасобных выпадках гэтая блакада будзе прарваная. Зрэшты, я быў бы вельмі рады памыліцца ў гэтым прагнозе. Сам жа я зьбіраюся ўдзельнічаць у кампаніі ў якасьці даверанай асобы аднаго з магчымых кандыдатаў.

**«Навіны»: Дзякуй.**

**Запісаў А. Суша**

# ХАРЧОВАЯ ПРАГРАМА НА 1982—90 гг. ВЫКАНАНА!!!

**Жить стало лучше,**
**жить стало веселее.**
**Іосіф СТАЛІН**

**Нам досталось тяжелое**
**наследие царизма.**
**Леанід БРЭЖНЕЎ**



1 студзеня 1990 г.— сьвята савецкіх людзей. Казка стала быльлю: Харчовая праграма ўвайшла ў кожны дом, кожную сям'ю. Чалавеча, цяпер галоўнае, каб не аб'есьціся або не падавіцца. А ў 2000 г. у кожнага будзе па хаце. Як падумаеш, дык ад шчасьця ажно робіцца млосна.

Спыніся імгненьне! Вернемся да слаўных дзён. 24 траўня 1982 г. таварыш Брэжнеў выступіў на пленуме ЦК КПСС з дакладам «Аб Харчовай праграме СССР на перыяд да 1990 г. і мерах па яе рэалізацыі» («Звязда», 25.5.82). Геній партыі спачатку прааналізаваў тагачасны стан з прадуктамі: «У радзе раёнаў маюць месца перабоі ў гандлі харчовымі таварамі. **Гэта выклікана ростам грашовых даходаў насельніцтва,** што пры стабільнасці дзяржаўных розьнічных цэн на асноўныя харчовыя тавары прыводзіць да павелічэння іх спажывання... З году ў год узрастаюць пакупкі прадуктаў харчавання самім сельскім насельніцтвам». Адным словам — чым лепш, тым горш. Або — зноў калгасьнік вінаваты.

«Многія калгасы і саўгасы стратныя. Прычыны такой сітуацыі розныя». І ўсе, больш ані слова. Але: «Прамысловым прадпрыемствам і арганізацыям трэба выдзяляць неабходныя плошчы сельскагаспадарчых угоддзяў». І паляцела над палямі ды фермамі вясёлая песьня прафесараў, інжынераў, студэнтаў, высокакваліфікаваных рабочых: «Пристает г... к штиблетам, спасибо партии за это!»

Што ж абяцала нам «руководящая и направляющая»?

**Спажыванне асноўных прадуктаў харчавання (на душу насельніцтва ў год — кілаграмаў)**

| | 1980 | 1990 |
|---|---|---|
| Мяса і мясапрадукты | 58 | 70 |
| Малако і малакапрадукты | 17,6 | 19 |
| Цукар | 44,4 | 45,5 |
| Садавіна і ягады | 38 | 66—70 |

Пра карткі і радыяцыйную забруджанасьць, вядома, тады нічога не напісалі.

«Доклад Л. И. Брежнева проникнут ленинским духом партийности и деловитости — это документ огромного теоретического и политического значения»,— адгукнуўся Я. Я. Сакалоў, 1-ы сакратар Берасьцейскага абкаму КПБ («Заря», 15.6.82). А VII пленум ЦК КПБ паабяцаў тады на кожную душу: «Яйцо (миллионов штук): 1986—1990 470—472». Немцы некалі крычалі: «Матка, яйка!». Нам таксама добра наабяцалі. Так што знойдзецца, чым закідваць аўтараў праграмаў.

І зноў таварыш Сакалоў: «А кому не известно, что одним из важнейших факторов повышения урожайности являются органические удобрения. Под яровой сев текущего года колхозы и совхозы заготовили и внесли



их около 11 миллионов тонн, что составляет по 26 тонн в среднем на гектар». Дзякуй вам, рупліўцы, за гнілыя зубы, за заўчасную старасьць бацькоў, за хваробы нашых дзяцей. І далей: «Бюро обкома партии и облисполкома на пастбищный период определили задачу: надоить в среднем /.../, обеспечить привесы /.../». Чытаючы гэта, так і бачыш сакратароў ды інструктараў, што ляпаюць пугамі ды тузаюць кароў за цыцкі.

Але вернемся да заключных словаў таварыша Брэжнева ў такім смачным харчовым дакладзе: «Мы, камуністы, прабіваем дарогу ў будучыню, ідзем наперад нязведанымі шляхамі. Ідзем з сапраўды рэвалюцыйным размахам, штурмуючы новыя і новыя рубяжы, узнімаючыся на новыя вышыні».

СЛАВА КПСС! Ура-а-а-а-а-а-а-а-а-а!

**Валеры Буйвал**

**Юрась Пацюпа**




Адкуль беларусы?
Ад рускіх, вядома.
Мы з братняю Русьсю
ў абдымку ідзем.

Нам Ленін зямлю даў
і раіў дзяліцца,
нат лямпачку й тую
ён вынайшаў сам.

Таму што вучыўся
адно на пяцёркі
і ведаў з калыскі,
што трэба рабіць.

А Горкі знайшоў нам
да шасьця дарогу,
а Пушкіна змалку
Купала чытаў.

Тут бульба гнілая
расла на балотах,
а зараз шчасьлівы
і радасны час.

«Народнае дзякуй
Маскве, Ленінграду!» —
прамовіў пясьняр
і ў кутку падпісаў:

«Нам сонца ня трэба,—
нам партыя сьвеціць,
нам хлеба ня трэба —
работу давай».

І мы не баімся
чужых радыяцый,
бо ўсё мы спазналі
і нават сваю.

Дык слава ракетам
і трубам заводаў,
няхай расьцьцвітае
калгасная шыр.

## КРОНІКА (Працяг са стр. 1)

і Ул. Сінякевіч былі аштрафаваныя на 150 руб. кожны, В. Смоляр — на 100 руб., Г. Шчэрбіч — папярэджаны. Пачатак «свабодным і дэмакратычным выбарам» у горадзе пакладзены.

**14 студзеня, Менск.** У Першамайскім раёне адбыўся мітынг-абмеркаваньне выбарчай платформы БНФ. Яе прадстаўляў намесьнік Старшыні Сойму Ю. Хадыка. Ён падкрэсьліў, што Беларусь ня вытрымае яшчэ пяць гадоў панаваньня партакратыі, і калі наш народ не скарыстаецца шанцам дэмакратычных рэформаў, рэальнай стане перспектыва грамадзянскай вайны. Пасьля мітынгу на сход жыхароў раёна па вылучэньні кандыдатаў у Вярхоўны Савет БССР прыйшло больш за 1000 чалавек.

**15 студзеня, Менск.** Адбылася арганізацыйная канферэнцыя Менскага гарадзкога аддзяленьня Беларускага Экалагічнага Саюзу. Яно ствараецца дзеля рашэньня насьпелых экалагічных праблемаў горада. Дзеля каардынацыі дзейнасьняў да ўстаноўчай канферэнцыі абраны «Квартэт управы». Тэл. для рэгістрацыі суполак 34-25-28.

**15 студзеня, Бярэсьце.** На паседжаньні Берасьцейскага абласнога суда была разгледжаная справа лідэра к-та Арцах НКАВ А. Манучарава. Абвінавачаньне прадстаўляў пракурор СССР Лебедзеў, абарону — ленінградзкі адвакат Шмідт. Сам Манучараў пад час судова-распарадчай нарады знаходзіўся ў Бутырскай турме ў Маскве. Судзьдзя М. Сумовіч прыняў рашэньне перадаць справу на дадатковае сьледзтва і вызваліць Манучарава з-пад варты. Па накіраваньні сесіі Вярхоўнага Савета Арменіі ў Бярэсьце прыехалі два нар. дэпутаты Армянскай ССР. Адная зь іх — нашая зямлячка з Гарадзеншчыны, якая ўжо 15 год жыве ў Ерэване — заявіла, што прымае асабістую адказнасьць за выкананьне Манучаравым судовых пастановаў. А. Манучараў правёў у зьняволеньні 14 месяцаў.

# СКРЫНКА 327

**(Працяг са стар. 3)**

і адпусьціў, не растлумачыўшы, хто гэта «ўсе» і «куды ісьці».

**Т. Царук, Наваградак**

### СЬПЕЕ ПАЛІТЫЧНАЯ ЗАБАСТОЎКА

11 сьнежня на ВА «Азот» у Гародні адбыўся мітынг, наладжаны групай падтрымкі БНФ, на якім абмяркоўваўся лёс 6-га арт. Канстытуцыі СССР аб кіруючай ролі КПСС. Вёў мітынг кіраўнік заводзкай групы БНФ М. Айрапецьян. Сакратар парткама А. Еўстрат і падрыхтаваныя ім людзі спрабавалі «бараніць» КПСС, страшылі рабочых «Салідарнасьцю» і «Саюдзісам». Ад групы БНФ і Рабочага Саюзу Беларусі выступілі Рамаnoўскі, Андрэеў, Швыркін, Піваварaў. За рэзалюцыю парткаму прагаласавала чалавек дзесяць. За рэзалюцыю групы БНФ з патрабаваньнем скасаваць 6-ы арт.— астатнія 300 рабочых, што ўзялі ўдзел у мітынгу. Рэзалюцыя накіраваная ў Маскву. У сувязі з тым, што ў дапаможных цэхах ВА «Азот» сьпее палітычная забастоўка як пратэст супраць цкаваньня адміністрацыяй сяброў БНФ, прашу зьмясьціць гэтую інфармацыю, па магчымасьці, без скарачэньняў.

**А. Чобат, Гародня**

### ПАКАЗУХА

На Віцебшчыне з 23 па 25 лістапада 1989 знаходзіўся член Палітбюро, сакратар ЦК КПСС Я. Лігачоў. Суправаджалі Лігачова ў паездцы па Віцебшчыне 1-ы сакратар ЦК КПБ Я. Сакалоў і 1-ы сакратар Віцебскага абкаму КПБ Ул. Грыгор'еў.

Што дзеелася ў гэты час у Віцебску? Сотні людзей былі выгнаныя на вуліцы горада: падмяталі, шкрэблі тратуары і дарогі. У крамах таксама быў пярэпалах: наводзілі парадак у гандлёвых цэнтрах. У дзень наведваньня Лігачовым і ягонымі спадарожнікамі крамаў (прадуктовай па вул. Чарняхоўскага і «Садавіна-гароднiна» аграфірмы «Дзьвіна»), чаго толькі не было ў гэтых крамах! Паліцы былі завалены рознымі цытрусавымі, разнастайнай садавінай і гароднінаи. У прадуктовай краме зьявіліся ўсялякія каўбасныя вырабы, розныя гатункі вяндліны. І ўсё па дзяржаўных цэнах.

У час наведваньня дэлегацыяй крамаў людзей туды не дапускалі, і толькі некаторыя прабіўныя жыхары горада змаглі там пабываць. Лігачоў вельмі зьдзіўляўся такім багатым крамам, якіх нідзе ў краіне зараз няма. А вось у Віцебску ёсьць, як у райскім куту. Ну, і вядома ж, не скупіўся на пахвалы ў адрас Сакалова і Грыгор'ева. А якое ж было зьдзіўленьне людзей, калі візіцёры выйшлі з крамаў: прадаўцы ўсе гэтыя прадукты хуценька прыбралі з паліцаў і вынесьлі ў кладоўкі. Людзі лаяліся, крычалі: каму патрэбна такая паказуха, навошта разыгралі такую камедыю. Але прадаўцы выконвалі сваю работу, не зважаючы на пакупнікоў...

**І. Цапота і Ф. Берднік, Віцебск**

### МОГІЛЬНІК АТРУТЫ

Як запрасіць у Слонім сьпецыялістаў па экалогіі, каб правесьці экспертызу могільніка атруты у запаветным лесе пад Слонімам? Захаваньне 46 найменьняў атруты з трох абласьцей зроблена ў 1974. Парушаныя ўсе нормы бясьпекі. Па словах сьведкаў, размова ідзе пра 30 тыс. тон, але дакладных дадзеных няма, бо ўлады «згубілі» і ня знойдуць дакументацыю. Таксама патрэбная незалежная экспертыза будоўлі вялікай базы атрутных хімікатаў каля в. Азярніца.

**І. Падгарадзецкі, Слонім**

### ЦІ НЕ КАШМАР ГЭТА?

Ляжыць перада мною праграма рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі «Воспитание молодёжи в духе гражданственности и патриотизма, готовности к выполнению воинского долга». Канферэнцыя адбывалася ў Бярэсьці з 24 па 26 кастрычніка 1989. Чытаю гэты праспект і тузаю сябе час пары за вуха: ці не кашмар гэта? А можа сном былі дэкларацыі пра рэформу ў школе і — няхай язык павернецца сказаць — пра перабудову? Але выразна акрэсьлены родным беларускім арнаментам апекуны канферэнцыі: Міністэрства народнай адукацыі БССР, Педагагічнае таварыства БССР, адпаведныя ўстановы Берасьцейскай вобл., Палітупраўленьне БВА і Берасьцейскі абкам КПБ. У дыскусіі «па баяздольнасьці» прымалі ўдзел прадстаўнікі менскага дзіцячага садка № 378 і дзіцячага садка калгаса ім. П. Войкава.

Па якіх жа праблемах дыскутавалі ваенныя педагогі? «Работа по преодолению негативных явлений в среде гражданской и военной молодёжи», «Опыт работы Октябрьского райкома комсомола по военно-патриотическому воспитанию», «Воспитательные аспекты [illegible] ов», «Совершенствование...— веление времени», «Подготовка студентов педвузов по военно-патриотическому воспитанию трудящихся» і г.д. Сярод аўтараў дакладаў — ня толькі афіцэры з палітаддзелаў БВА і камісарыятаў, ваенныя педагогі, але і цэлы шэраг высокіх навукоўцаў АПН БССР і кафедраў педагогікі нашых ВНУ. Што ж чытаем у «Программе»? Тоўстым шрыфтам: «Боевая обстановка проверяет нашу готовность к выполнению воинского долга»...

**Я. Бяласін, Бярэсьце**

**Ад рэдакцыі: За апошнія тыдні мы атрымалі каля сотні лістоў. Аўтарам, чые допісы не маглі быць з тых ці іншых прычынаў зьмешчаныя ў газэце, будуць дадзеныя прыватныя адказы. Туды, дзе сітуацыя патрабуе непасрэднага разбору, накіруем карэспандэнтаў.**

**Падрыхтавала Алена Радкевіч**




### НА БУДОЎЛЯХ МЕНСКУ

● Завяршаецца ўзьвядзеньне прыбудовы да Дома ураду, у якой неўзабаве прасторна разьмесьцяцца служачыя Дзяржплана. Прыбудова (а дакладней велізарны гмах) будавалася пад грыфам ГВЦ КП Дзяржплана БССР (Галоўны вылічальны цэнтр Дзяржплана). Кошт «прыбудовы» 3.555.540 руб.

● Завяршаецца капітальны рамонт дома № 8 па Ленінскім праспекце (будынак Менгарвыканкама). Рамонт пачаўся ў 1986 годзе і спачатку каштаваў 2.010.180 руб. Потым каштарыс павялічылі да 2.976.000 руб., а ў ліпені 1989 года — да 3.230.760 руб.

## Аб'явы ● Інфармацыя

● **Кансультацыйна-агітацыйны цэнтр БНФ па выбарах,** які знаходзіцца ў Рэспубліканскім Доме кіно (Чырвоны касьцёл), працуе:

— па будзённых днях з 11.00 да 14.00 і з 18.00 да 22.00;
— па суботах з 11.00 да 17.00.

«Гарачы тэлефон» 20-47-02 (18.00—20.00 па будзённых днях: 11.00—17.00 па суботах).

● **Працягваецца падпіска** на **«НАВІНЫ БНФ»** і іншыя незалежныя выданьні Беларусі (**«Абуджэньне», «Шлях», «Студэнцкая думка», «Супольнасьць», «Прамень», «Рэанімова», «Весткі Адраджэньня», «Літаратура», «Праваслаўная думка», «Голас Беларуса»** і інш.). Усім жадаючым прапануем паштовым пераводам даслаць 5 руб. адказнаму за падпіску сябру Сойму БНФ Бяляцкаму Аляксандру Віктаравічу на адрас: 220600, вул. Ф. Скарыны, 3—35. Просьба зваротны адрас пісаць дакладна і ахайна. Пасьля таго, як на дасланыя грошы будзе адпраўленая адпаведная колькасьць выданьняў (улічваецца кошт выданьняі перасылкі), пра працяг падпіскі вы атрымаеце паведамленьне.

● **Грашовыя паштовыя пераводы-ахвяраваньні для БНФ «Адраджэньне»** просім накіроўваць на адрас: 232012, Вільнюс, вул. Жырмуну, 106. Ашчадная каса № 8289/059, код банку 751627, разьліковы рахунак 164505, ашчадная кніжка № 9671. Стэху Валянціну Уладзіслававічу. (Рахунак адкрыты ў Літве, бо там больш надзейна).


НАВІНЫ

**Нумар падрыхтаваны рэдакцыйнай калегіяй БНФ «Адраджэньне». Рэдактар Алесь Суша.** Адрас для карэспандэнцыі: 220113, Менск-113, абанементная скрыня 327. Нагадваем, што бяз Вашых ахвяраваньняў (дастаткова 40 кап. за нумар) выданьне «Навінаў» стане немагчымае. Меркаваньне аўтараў публікаваных матэрыялаў не абавязкова супадае зь меркаваньнем рэдакцыі і кіраўніцтва БНФ.

Афсетны друк. Фармат 1 друкаваны аркуш. Наклад 10 000. Заказ № 5. Друкарня Марціна Кухты.

Приложение к бюллетеню "ЗИЕМЕЛЬЛАТВИЯ" ответственный за выход газеты м М. П. БОГУСТОВ

Тип. Лиесма 3. №/ ...